КНІГАРНЯ ПІСЬМЕННІКА

Святлана Раманава

# Смарагдавы рай

*Паэзія*

Мінск, «Кнігазбор», 2013

УДК 821.161.3-1
ББК 64(4Беи)-5
Р21

*Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў
«Кнігарня пісьменніка». Выпуск 35.
Заснаваная ў 2009 годзе.*

Аўтар выказвае вялікую падзяку Людцы Сільновай за дапамогу ў падрыхтоўцы кнігі.

**Раманава, С.**
Р21 Смарагдавы рай : паэзія / Святлана Раманава. — Мінск : Кнігазбор, 2013. — 96 с. — (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка» ; вып. 35).
ISBN 978-985-7057-40-5.

Эвалюцыя духоўнай прасторы, пастаяннае самаўдасканаленне, спасціжэнне свету і сябе ў ім, імкненне да ідэалу — асноўны лейтматыў кнігі.
Паэзія Святланы Раманавай — гэта кроўная сувязь з жыццём, гісторыяй, прыродай, сучаснасцю, будучыняй Радзімы, увасобленая ў знітаваннях слоў і колераў.

**УДК 821.161.3-1**
**ББК 64(4Беи)-5**

**ISBN 978-985-7057-40-5**



*Прысвячаю маці
Веры Іванаўне Раманавай,
дочкам Вікторыі і Марыі*

***А Слова просіцца
на волю,
а Слова стукаецца
ў сэрца —
з нябёсаў шчырых,
з даўняй мроі
на людзі белым птахам
рвецца…***

# НА ЎЛОННІ ВЯСНЫ

## Настрой

Вып'ю майскую раніцу —
сырадой,
прабягу па мурожнай сцяжынцы.
Хто са мной?

Буду зоркі лавіць на ляту
і расу.
Залацісты прамень упляту
у касу.

Буду гойсаць, смяяцца, дурэць,
ззяць уся.
Маці ветла ўсміхнецца услед:
«Ну й дзіця!»

А я крыкну тады: «Вясна!
Родны край!
Я да вас на спатканне прыйшла.
Сустракай!»

## Красавік

Люблю я сонца залатое,
люблю прыгожаю вясной...
*Наталля Арсеннева*

Вясна. Цяплынь. Клякоча зноўку бусел,
а потым доўга кружыць над сялом.
Ляцяць дадому журавы і гусі,
махаючы прытомленым крылом.
Цвіце арэшнік, сонцам абагрэты,
яшчэ лісток схаваны ў кулачок,
і ледзь відаць пунсовы пэндзаль кветак,
а дакранешся — паляціць пылок.
Гаі празрыстыя, лясы са сцежкамі
прыемна пахнуць полем і вясной.
І разам з першым сонечным падснежнікам
так вольна дыхаць на зямлі сваёй.



## Беларусь

1

О Белая мая!
Надзея белая,
ў крыжоў сутонні,
параненая тымі,
хто раз’яднаны духам,
жывеш ты, летуценная,
жыла і будзеш жыць.

2

Узяць бы цябе ў далоні,
доўгачаканы ліст,
прытуліць да сэрца.
Зямля мая снежаньская
з чорнымі лапікамі лясоў, —
сагрэць бы цябе у сцюжу.

## Мара

Амаль губляючы свядомасць,
нам марыць, марыць аб свабодзе,
свой край і годнасць бараніць.
Тварыць як дыхаць, смела жыць.

Ля мовы роднай сэрцам грэцца.
Мы — аднадумцы, аднаверцы.
І мову дзецям перадаць
як спадчыну, як кроў, як рай.



## Гаючыя промні

Сонейка там узыходзіць,
дзе некалі я нарадзілася,
сонейка там узыходзіць,
дзе бацька й маці мае жывуць.

Адтуль ліецца святло,
і гаючыя промні яго
далятаюць сюды,
дзе я ладжу сваё быццё,
дзе шуміць залатое лісцё.
І плывуць, нібы хмаркі, гады,
і ляцяць, быццам кулі, гады...

Хай заўсёды сонейка там узыходзіць
і гаючыя промні яго
берагуць ад бяды
жыццё.

## Водар дзяцінства

Васількова-жытнёвае поле і лотаць —
водар майго маленства.
З тарфяных балот Палесся
пачыналася мая песня
і голас,

з вярбы жоўта-лімоннай, вясны летуценнай
і гулу руплівых пчолак,
з загадкавых крылцаў матылька-махаона
і ліпкіх барвовых смолак.

Душа аж млела ад святлыні
Радзімы любай.
Ніхто не думаў, што нахлыне
Чарнобыль люты.

Бабуліны песні, каляіны ўспамінаў
ліліся салодка, трывожна:
у сорак чацвёртым дзядуля загінуў
ад асколка снарада варожага.

Плач яе горкі, няўсцешны:
невядома, дзе муж пахаваны.
Краскі галовы схілілі ў адчаі —
як жыць без Івана Мар'і?

Вера, маці мая, нарадзілася,
бацьку свайго ніколі не бачыла.
Слязінка з вачэй кацілася —
незагойная рана страчанага.



Рана ўставала Мар'я-Мар'янка,
даіла кароўку, дзетак карміла,
людзі яе паважалі,
браты Пятрок і Кірыла.

Агмень тых часоў далёкіх
гарыць і сёння, не стыне...

## Успамін

*Бацьку*

Памятаю, мы ехалі ў лес.
Іскрыўся снег і сыпаўся з голля долу.
Радасць, узнёсласць, сэрцаў біццё —
нязведаным было наваколле.

На лыжах мы ўмелі адно хадзіць,
ледзь-ледзь перастаўляючы ногі.
Ты гаварыў, што балота спіць,
замецены ўсе дарогі.

Слухалі, зачараваныя... Ты, чараўнік,
вёў нас, маленькіх, у казку...
Ды казка гэта — на свеце жыць —
сталася драмай ці фарсам.

Цяпер ужо я раскажу табе
пра сумныя дзеі на свеце.
Ды вочы твае — не ў бясконцай журбе —
ў адказ мне усмешкаю свецяць.



## Дзве дзяўчынкі

*Бабулі, Марыі Аўдакімаўне*
*Нахабцавай (да замужжа*
*Церахоўскай)*

Бачу цябе дзяўчынкай:
няма сівых валасоў,
няма зморшчанай скуры рук.
Муж Іван не пахаваны.
Ты нават не ведаеш: хто ён, дзе?
Гойсаеш па лесе з сяброўкамі.
Цябе любіць бацька, малодшанькую...
Бабуля, што здарылася?
То я жыву ў Бабічах,
то я на кані пераплываю рэчку,
то мае гусі зайшлі ў грэчку,
а зараз крычаць у травах,
а ты пішаш гэтыя словы,
што любіш мяне, тую дзяўчынку.
На маіх валасах — цень вечароў-вечарынак.
Рукі мае пахнуць полем і малаком.
Тая дзяўчынка ідзе ў росных травах...
Дзень пачынаецца зноў.

## Крыху настальгічнае

Восень. Верасень. Ранняя золь.
Мы збіраемся ў школу старанна...
О радзіма! Бацькоўскі мазоль
і журботная калыханка.

Слодыч, горыч хвілін развітання,
росна-каляная немата.
Шлях ў дзяцінства далёкае — выратавальны,
зоркай свеціць, вядзе праз аблогі жыцця.

Ні вырай, ні нараджэнне не адгукнуцца:
час — бясконцы, чаго не скажаш пра нас.
Ды ўсё ж — шанец ёсць святлом разгарнуцца,
завязаць на кашулі нябесны пас.

А пакуль — прахалода белых вяргіняў,
гагатанне гусей і каровы рыканне.
Хутка бульбу капаць,
пах атавы ўдыхаць,
назіраць за жыццём штохвілінна...

Мой самотны клін жураўліны,
за туманам будзь, за туманам.



## Надзеі вузельчык... Дыханне

Ў маім сэрцы начуюць мроі —
знітаванае голле? карэнне? —
што няспынна душу вярэдзяць
безнадзейнай нязводнай жарсцю,
запаветнай горкай любоўю.

Ў маім сэрцы начуюць птушкі,
ды няма, няма ім палёту,
быццам нехта сіло накінуў
і трымае нябог у няволі.

А крынічка лясная льецца,
а буслы наша шчасце вартуюць,
журавель не знікае ў небе,
і сыходзіць бязладдзе ў цішу.

А надзеі вузельчык — то ж свята!

## Чачэрская ратуша

«Слаўны горад над сінім Сожам...»*
Плача ратуша чвэрць стагоддзя.
Аднавіць яе мы ці зможам?
Гістарычны час ці адродзім?

Да чаго душой прыхінуцца?
Дзе для будучыні браць сілы?
Да мінуўшчыны слаўнай, мілай,
дзе палотны ільняныя ткуцца.

Вы цвіціце ў палях, васілёчкі,
нашы душы гартуйце красою,
каб цяклі маладыя дзянёчкі
паўнаводнай празрыстай ракою.

Краю мілы, бацькоўская хата,
нашу ў сэрцы вас свята і з болем...
Гэй, ляціце, буслы-бусляняты,
і па пёрачку скіньце на хорам.

* Радок з гімна горада Чачэрска (на словы Святланы Марозавай).



## Дзве вясны

Снег згрэблі шуфлямі і знішчылі.
Неміласэрна сонца зыркае пякло,
умомант тратуары высахлі —
ні ручаёў, ні капяжоў.

Вясновы дождж прабег па вуліцах,
прамыў дзявочы звонкі смех.
Стары наш дом прыветна жмурыцца,
і нават ён памаладзеў.

Ды толькі мне ў агульным сполаху
сябе ніяк не адшукаць:
усё чужое, нават подыху
маёй вясны тут не чуваць.

Мая вясна, жывая, светлая,
трапеча звонкім ручайком,
над узрунелымі палеткамі
лагодна вее вецярком.

Скідаюць лозы там адзенне соннае,
прамыўшы твары светлай раніцай,
вярбінкі-коцікі пяшчотай сонечнай
чмялю і пчолцы адкрываюцца.

Там нешта большае, чым крыгі тонкія, —
дыханне, пульс нябёсаў сініх,
бярозкі белыя, бы сёстры родныя,
пад колкім ветрам зажурыліся.

Там я свая сястры-прагалінцы,
браткам-шпачкам, сцяжынцы ў полі.
Мая вясна — сардэчнай лаваю
к табе, ралля і гай знаёмы!



## У пошуках святыні

*Андрэю Скуратовічу*

1

Малюся на месцы былога касцёла.
У што можна верыць?
Малюся, таму што баюся
сябе у бязвер'і.

Баюся згубіць цябе, боль,
баюся згубіць цябе, святасць,
зямную юдоль і любоў,
аднойчы народжаных клятвай.

Малюся нямым касцям.
Так блізка яны, вось, побач.
Жылі ліцвіны даўно...
Іх душы за нас, пэўна, моляцца.

Промні гісторыі — месца святое,
святло іх — з нашай жа будучыні.
Людзі жылі, гаварылі пра тое ж,
што нас і сягоння мучыць.

Яны свой час адстаялі,
яны — у стагоддзях героі.
А што мы зараз ствараем?
Што скажа пра нас гісторыя?

Малюся...

2

Шчымлівым болем — бясконцае поле гісторыі.
Мы стаім з табой на касцях...
Пясок, ды й таксама тлен — зорачкі белыя,
крохкія,
возьмеш у рукі — раз! — рассыпаюцца...
Чарапы чалавечыя, цэгла чорная, абгарэлая,
цэгла вечнасці.
Падмуркі каменныя мыюцца пад дажджом...
Памяць рушыцца, памяць рушыцца,
памяць рушыцца!
Мы — жывём?

Кожны памятай: кроў твая —
не туманы ў прыцемках,
кроў твая з тых часоў цячэ — непралітая,
а пралітая — чорнай стала зямлёй урадліваю.
Ты сюды на спатканне прыйшоў са сваёю
магілаю...

Бяздоннасць шэрых вачэй і па кроплі — боль,
у далонях — скронь.
Сёння ў нас урок памяці.
Я з табой, прашчур мой!

...Твае доўгія веі і шэрыя вочы,
бязважкасць пятнаццаці год...
Ты прыходзь сюды ўдзень і ўвечары,
ў дождж ты сюды прыходзь.

Можа быць, мы сустрэнемся,
ты ў сэрцы маім жывеш.



У чорныя ночы бязвер'я
ты — мой ратавальны верш.

Лісце мокрае — пад нагамі,
Малады алень — непаранены...
Вочы — ў вочы,
каб скінуць завесы вякоў, —
наша кроў.
На Беларусь
Кастусь Каліноўскі прыйшоў,
Уладзімір Караткевіч прыйшоў...
А ты?
Ці ідзеш?

## Чаканне

Краю мой родны, як выкляты Богам...
*Максім Багдановіч*

Як доўга доўжыцца зіма:
халодны вецер, дождж і слота,
зямля і лес — адно самота...
Ў мяне ж ні сіл, ні слёз няма.
Як доўга доўжыцца зіма!

Гэй, красавік, махні крылом,
сагрэй крапіўку, лісце, шчаўлік,
дыхні цяплом замест адчаю
ў людзей змарнелае жытло.
Гэй, красавік, махні крылом!

Хто той чаканы правадыр?
Хто тая светлая душа,
што уратуе родны край?
О Божа, сэрца й розум дай...
Хто той чаканы правадыр?

Сястра мая і мой браток,
у працы радасць нам спазнаць.
Мы — творцы! Кожны з нас — мастак.
Вось белы ліст майго жыцця,
сястра мая і мой браток.

Расці ж, дзіцятка-немаўля!
Вясна, сагрэй усіх пяшчотай.
Растань, як снег, мая самота,
Расці, мой верш і нацюрморт мой,
Расці ж, дзіцятка-немаўля!



## Расці, як сонца

*Дачцэ Марыі*

Дзяўчынка мая, дачушка, галубка,
усмешка твая — мне свята.
Няхай не будзе табе слязінак
у свеце, на гора багатым.

Расці, як сонца расце над дрэвамі,
расці, як пралеска на цёплай зямлі,
ідзі па жыцці ўпэўнена,
не стамляйся ісці.

З Божай ласкаю, благаслаўлёная,
у сэрцы радасць нясі.
Самае цяжкае, мая родная, —
у згодзе ды ладзе з людзьмі жыць.

Бываюць сэрцы зайздросныя і халодныя —
толькі не сэрцы сяброў.
Умей сябраваць, мая родная,
шануй свабоду, працу й любоў.

Любоў да сонца, што ўзыходзіць раненька,
да людзей шчырых, добрых, адкрытых,
да працы, што корміць і сілу дае,
любоў да Бога, што пакуты за нас прыняў.

## Жыву, мама!

Жыву тваім дыханнем, мама,
хоць ты не побач, не са мной,
але яго я адчуваю
і ўвечары, і раніцой.

Так рэдка бачымся — жыццё такое;
ў цябе — тваё, ў мяне — маё.
І ты так часта ўспамінаеш
маленства даўняе сваё?



## Матуліна мова

К табе я ў думках прылятаю
І там душою спачываю.
*Якуб Колас*

О матуліна мова! Наша радасць і спеў!
Дзе знайсці тыя словы, каб сказаць пра цябе?

То звініш ручаёчкам — дзіва-песню спяваеш,
то шапочаш лісточкамі — дні тугі ўспамінаеш.

Усю мудрасць народа ў сябе чуйна ўвабрала,
повесць мужную, звонкую разам з ім ты
складала.

Ты прайшла неаднойчы праз ліхія навалы,
цябе моцна любілі Цётка, Колас, Купала,

Цябе сёння шануюць Барадулін, Сулкоўскі;
многа, многа нас, шчырых, ў гарадах і на вёсках.

На матулінай мове я пяю калыханку,
на матулінай мове травы шэпчуцца зранку,

На матулінай мове — жаваронкі, сініцы.
Гэта шчасце — аднойчы ў Беларусі радзіцца.

Нехта любіць Амерыку, і Нямеччыну, і Кітай...
На экскурсію — можна, толькі тут — родны край.

Дык спявай, дарагая, ў садзе моўным Сусвету
пра жыццё Беларусі ўсёй вялікай планеце.

## 28 лютага 2006 г.

Лозы, вербы, сонца хвалі,
выядае вочы бель.
Мчыць маршрутка між палямі —
лёгкакрылы карабель.

Я сястрыцы журавінак —
жар сардэчны — адвязу,
напрарочу лёс шчаслівы
і шчаслівую слязу.



* * *

Дзякуй Богу, пеpaзімавалі,
да зялёнай травы дажылі.
А хваробы і змрочныя хвалі
з веснавою вадою сышлі.

Абудзіліся пчолкі ў вуллі,
робяць першы вясновы аблёт.
Маці рупіцца: хутка сяўба,
і падправіць стары трэба плот.

## Ода алешыне, якая расце на балоце

Вочы мае,
напіцеся вабнай красы
россыпу белых падснежнікаў
пад купамі вольных вояў-вольхаў
срэбнакарункавых,
што бясконца растуць
паабапал лясных дарог,
ускрай балотаў Палесся.
Мілы сэрцу пейзаж!
Нешта большае ў ім,
чым проста дрэвы і краскі.
Вада веснавая спрадвеку
глядзіцца ў нябёсы.
Яна,
расталая вада, — прарадзіма,
магніт, жывы арганізм.
Яна памятае
малітвы і спадзяванні
мільёнаў сышоўшых стагоддзяў,
прыцягвае ўвесну збалелыя душы —
дзеля ачышчэння ад тлуму цывілізацый.
Алешыны, аер ды вербалозы —
балотныя феі —
гамоняць, шэпчуць, мілуюць
адно адное
пад сонцам любові бязмежнай.
Узгадваю гэта
штогод — вясною і ўвосень —



і рушу ізноў да бацькоў
на радзіму
ў вёсачку Покаць,
што моліцца небу
пра клопат спрадвечны.

## Ісці

Так хочацца піць невымоўнае:
сакральнасць, выток, іншасвет,
вячэрняе неба няўлоўнае,
чаканне вясны, першы снег.

Ты, вечнае боскае вогнішча
дум нашых, — імкненне да зор,
нас мучыш, катуеш, узносіш
у вольны высокі прастор.

Ты, смага вякоў неспатольная,
бяздонне: што там, за мяжой?
Кіпіш у крыві неадводна,
нібы гарыцвет, дзень і ноч.

# ВЕРЛІБРЫ З ПЭНДЗЛЕМ У РУЦЭ

## Натхненне

О, водар алейнай фарбы,
боскі нектар жывапісца,
маёй прысутнасці свята,
дыхання майго святліца!

Ён нагадвае пах вясновай зямлі
і першай мокрай травы,
першых красак, спаткання першага,
першага пацалунка і болю.

Нікалас Пірасманішвілі
маляваў на цыратах
і, пэўна, піў гэты дзёрзкі пах
разам з небам, прызваннем і воляй.

Таемнасць Леанарда да Вінчы —
сфумата* мройны міраж.
...У майстэрні маёй — гаюча-балючым храме —
з раніцы — свету стварэнне,
распяцце і крок у рай.

---

* Sfumato (*італ.*) — літаральна: «знікаючы, як дым»; мяккасць жывапіснай манеры, плаўнасць танальных пераходаў, размытасць контураў. Тэрмін увёў у жывапіс Леанарда да Вінчы (1452–1519).

## Узнёсла жыць!

Як добра, што на свеце ёсць паэты!
Калі душа маркоціцца, драбнее
ці захлынаецца нязводным болем,
вазьму я томік новы ці пажоўклы,
ці зазірну ў музей, палац мастацтва,
каб удыхнуць палотнаў пах салодкі
і ўбачыць той жа боль нясцерпны,
які усё жывое працінае,
і прагу неадольную святла й кахання,
любові роду і радзімы,
і прагу чысціні — няспраўджаных нябёсаў...
Узнёсла жыць
і быць удзельнікам дзівоснай дзеі...
Жыві, надзея,
без цябе не жыць —

як вада цячэ,
як трава расце,
як сонейка ўзыходзіць,
як сэрцайка б’ецца.
Жыві!



## Кола жыцця — кола мастацтва

Калі б не было маці —
не было б мяне.
Калі б не было Настаўніка —
не было б мяне...
*Алесь Квяткоўскі*

Квят, «Квецень», кветкі, Квяткоўскі...
Квінтэсенцыя — беларускія соты.

Кола жыцця — кола мастацтва працягваецца,
палатно на падрамнік зноў і зноў з любоўю
нацягваецца.

Прыходзілі дзеткі ў студыю да Сяргея Каткова,
прыходзілі дзеткі ў студыю
да Алеся Квяткоўскага.

З чаго мастак пачынаецца?
Ці не з гэтых першых, нясмелых крокаў —

калі, «не гледзячы на недакладнасць жыцця»*,
маці ў студыю сына або дачку прыводзіць?

«Кожнае дзіця — геніяльны творца»,—
гэтую думку не аспрэчыць ніхто.

І першая кветачка, і першая птушачка,
і першы партрэт Настаўніка
ўрэшце намаляваныя.

А далей — незаўважна, вольна, нязмушана
рука з пэндзлем і вока «пастаўлены».

* Радок з верша беларускага мастака Алеся Квяткоўскага.

## Залатыя ключы

Залатыя ключы майго лёсу,
вас так цяжка і доўга шукала,
ў век няпросты цвіла, памірала,
залатыя ключы майго лёсу.

А былі ж вы так недалёка:
ў сябе верыць і марыць высока,
працаваць з дня у дзень з новай сілай,
не зважаючы ні на што — быць шчаслівай.

...Міг і вечнасць, ключы, адамкніце,
адамкніце свабоду і веру,
узаемнасці сонца, даверу.
Іх, як сцяг, у дарогу вазьміце.



## Шчасце ёсць!

«Купалінка, купалінка,
цёмная ночка...»
*Словы з народнай песні*

Жыццё чаруе нас.
Аднойчы без крылаў, без мэты,
без працы ў развазе я ішла
па Валгаградскай вуліцы майго любімага Мінска
і ўпершыню ў жыцці,
амаль у сорак гадоў,
*раптам* убачыла
залацістую кветку купалінку,
родную сястру таямнічай папараць-кветкі.

Яркае залацістае таемнае хараство
палескіх балот!
Яніна з Гродзенскай вобласці
гандлявала гэтым цудам.
Купалінка занесена ў Чырвоную кнігу.
Вядома, вельмі шкада сарваных кветак.
Ды ў маім сэрцы ўспыхнуў агонь надзеі,
што ўсё лепшае — яшчэ будзе!
Падумалася:
«Радуйся, вольны мастак, што ты — вольны,
што пішаш па замове алейнымі фарбамі
«Птушку Фенікс»,
што ў газеце «Культура»
надрукавалі твой допіс
пра славацкага мастака Марціна Келенбергера,
што ў дачкі Марыі — пленэр...
Дзякаваць Богу, шчасце ёсць!

## На адкрыцці выставы жывапісу «Цуды маляванага свету», прысвечанай памяці мастачкі Алены Кіш

*Мастацтвазнаўцу*
*Яўгену Шунейку*

Ткуцца палотны жыцця
з сустрэч выпадковых
і невыпадковага лёсу,
з сонечных шчырых пялёсткаў,
з думак наіўных і чыстых,
з цяжкіх і радасных слёзак.
Вер сабе, юнае сэрца!
Вер сабе, мілы мастача!
Жар твайго Боскага духу
праз колер і пэндзаль хай скача.
...«Ліст да каханага» пішацца,
львы з залатымі грывамі,
з райскага саду птушкі
высвечваюць нашы душы,
вечнасці прагнае вочка
поруч, бы сябра, крочыць.
Вер сабе, юнае сэрца!
Вер сабе, мілы мастача...



## Трыялет

Ракаў, ранак, радзіма, ралля...
Сэрца радасна крылы ўздымае.
Чуеш? Мова да першавытокаў вяртае:
Ракаў, ранак, радзіма, ралля...

Бачыш? Мудры бог сонца Ра
прывітанне табе дасылае:
Ракаў, ранак, радзіма, ралля...
Сэрца радасна крылы ўздымае.

## Мая майстэрня

Пах фарбаў, пах цудаў, кнігі,
палотны — жыцця прасціны.
Падрамнікі, пэндзлі, рамы,
пейзажы, партрэты, выявы.

Ліст белы магнітам моцным
прыцягвае да размовы.
Спакой. Можна вольна дыхаць.
Спакой. Можна вольна думаць.

Ліст белы — дом зямны душы.
Малюй... Пішы... Вяршы.
Праца — натхненне і крылы.
Шлях свой трываць, асіліць.

Сябры, вы часцей прыходзьце,
Трывогі свае прыносьце!



## «Радзімаю зачараваны»*

*Мастаку Кастусю*
*Качану — балеснае,*
*з самаіроніяй*

...Лаўрышава, Лаўрышава —
таемны той куток,
пражыты дзе і выпіты
на ўсё жыццё глыток

нябеснага, балеснага
гаючага агню
з радзімай кроўнай сувязі,
галоўнае «люблю».

На вернісажы ў мастака
палотнаў шчырая рака.

«Пейзаж вільготны» — час застыў;
цывілізацыя наўздзіў
не закранула гэты свет.
Там, за акном — няспынны бег....

А тут, ў майстэрні ў Кастуся —
ўся Беларусь, малітва ўся:
касцёлы, цэрквы, бальшакі
і плынь імклівая ракі.

Вось нацюрморт — збанок мядку...
Маэстра! Ісціна — у збанку?
Мастацтва, ты — ў стагоддзях крылы,
агонь бязлітасны і мілы!

* Назва выставы жывапісу Кастуся Качана.

## Лотас і лотаць

*Марыі Ісаёнак, майстру*
*лірычнага нацюрморта*

Калі расцвітае лотаць,
кветка мая і продкаў,
набірае сілы Ярыла —
паганскае яснае сонца.

Травачкі ўздымаюцца,
красачкі раскрываюцца,
і душа мая — да ідэалу,
да тваёй душы ўсё спяшаецца.

А недзе ў Егіпце лотас
у вяках цвіце, утрапёны,
і мудрыя сфінксы-калосы
глядзяць і глядзяць на плямёны.

Вякі ідуць за вякамі.
ваююць Усход і Захад.
Хочацца, каб пабраталіся
лотас і лотаць аддана.

Чалавек — слабая сцяблінка,
ды імкнецца да сонца, да ведаў.
Толькі б сэрца было багатым:
і любоў, і спагаду ведала.

Мой колер любімы — сонечны,
яго мігценне, адценні,
яшчэ — колер кволай руні,
што глебу прабіла ўпэўнена.



Па сонечным промні спусціўся
юнак малады і прыгожы.
І скача душа срэбракрылая
на кані па палетках і пожнях.

Забытыя горкія слёзачкі —
вільготныя спелыя вішні...
Промні сусвету — арэлі
часу рака калыша.

І ў гэтым пейзажы Чарневічы —
родны куточак Радзімы —
звініць ручаінай-званочкам
у Мінск, Мікалаю й Марыі.

## Галоўная мелодыя

*Народнаму мастаку*
*Беларусі Міхаілу*
*Савіцкаму*

1

Мастак паміраў...
«Мне б пэндзлік...» —
рука малявала ў паветры
нябачныя контуры, явы
у сненні, знямозе, спакоі...
Памерці каля карціны —
жаданай самай жанчыны,
ля ног яе, ля мальберта —
галоўная прага сэрца.
Восеньскім млгістым ранкам
сонца недзе далёка.
Тужлівыя доўгія ночы...
Ў майстэрні, ў кватэры цёмна,
сэрца ўзіраецца ў вочы
пакуль невядомай карціны —
самай каханай жанчыны...
Сёння і...
вечна.

2

За восемдзесят восем зімаў,
за восемдзесят восем вёснаў
быў і бязмежна шчаслівым,
было жыццё й невыносным.



«Лічбы на сэрцы» не сцерці
з памяці,
Фашызм прайшоўся па лесе
бясконцым рэхагалоссем.
Ды суджана не памерці,
а паказаць планеце
твар вайны ахвяраў
ад «Мадонны Біркенау»
да «Партызанскай мадонны»,
праўдай жыццёвай поўны.
І квітнеў «Куст руж»,
і была «Асалода».
Белая галава, белая галава,
бо чорным-чорная быль.
Час скроні бяліў, бяліў —
выбеліў,
пакінуўшы на палітры
смак блакітна-ружовай шэрані колераў
і роўны-роўненькі шыхт
пэндзлікаў — вояў-анёлаў...
Чакаюць наступніка —
боскага волата-майстра.

## Смарагдавы пейзаж

*Леаніду Шчамялёву*

Мне прысніўся майстар-мастак
і вільготна-смарагдавы рай:
адмысловы летні пейзаж.
Мне прысніўся майстар-мастак.

Гаварыць нам было аб чым:
як здзіўляцца і свет здзіўляць.
Мне прысніўся майстар-мастак
і вільготна-смарагдавы рай.



## Паэзія

1

О муза!
Ты — вострае каменне за плячыма,
што раніць да крыві,
ператварыцца потым каб у крылы,
жыві і нас сабой жыві.

...Прыходзь у сне паненкай вабнай, гожай...

2

Паэт — заўсёды маланка,
дзіўная кветка энергіі.
З ёю так лёгка дыхаецца
і доўга хочацца жыць.

...Быццам прайшлі дажджы.

3

Хачу, раблю — як ёсць,
прагну — і дарэмна.
Натхненне — працы госць,
прашу, не пакідай мяне!

## Родны край

*Сяргею Плыткевічу,*
*аўтару фотаальбома*
*«Мая Беларусь»*

Збіральнік прыгажосці Беларусі,
фотамастак, вандроўнік і мысляр.
Ты зноў — ў дарозе, бо вярнуўся бусел
і вербалозы вымыла вясна.

З вяслом у чоўне, каб угледзець чаплю
ці зімародка сіняе крыло,
не ведаеш ты стомы ў дождж і сцюжу,
імгненне ловіш, каб яно жыло.

Імгненне цуду, і красы, і смагі,
і настальгіі па жывой вадзе
прыроды чыстай, Божай, беззаганнай...
Як зберагчы яе у новы век?

Няхай душа лятае шызай чайкай
над Беларусі раненай красой,
Вяртаюцца дамоў шпакі і слаўкі...
Спявай, мастак, і услаўляй жыццё!



## Жураўлінае сэрца

*Анатолю Сысу*

Толя, Толік, Анатоль —
лірнік светлы, шчыры, гожы,
абпаліў цябе агонь,
высек з сэрца іскры-слёзы.

Словы цёплыя і кранальныя,
бы матулі сэрца й далонь,
словы — лёзы, болю кінжалы,
судны той, нябесны агонь.

Хто суддзя табе, абаронца?
Усё той жа, балесны край.
Ты аддаў сябе мары цалкам,
Беларусі роднай аддаў.

Сэрцам жыў — ні кроплі выгоды,
птахам-жоравам над зямлёй.
Жураўлінае сэрца нязводна,
ой, далёка цябе завяло.

А інакш быць ці магло?
Ты ўзяў сабе боль Купалы...
Што такое гэта любоў?
Гэта многа, скажыце, ці мала?

І ўсё ж цяжка, горка прызнаць:
«Беларусь мая — мая магіла».
Лепш бы волат-паэт сказаў:
«Краю мілы, ты — вольныя крылы».

## Жураўліныя пёры

Не будзе ад паэзіі збавення...
*Яўгенія Янішчыц*

Прывезлі з Мінска ў Гарошкаў,
у дом бацькоўскі,
Анатоля Сыса рэчы...
Нібыта апалі пёры
з крыла сівога жураўля.
Вось шафы з кнігамі,
партрэты ўлюбёныя паэтаў —
Максіма Багдановіча, Янкі Купалы.
Вось «Сонца» ў квадратнай раме,
Вось кнігі з подпісамі, а таксама —
здымкі, здымкі:
паэт з бацькамі, аднавяскоўцамі,
сябрамі і сяброўкамі.
Вось «Муза» Андрэя Саннікава —
з ёю не развітваўся паэт ніколі.
Абраз, што быў напісаны непадалёк,
у Холмечы. На двух баках: «Узнясенне»
ды «Цуд Георгія аб змеі», —
абраз, што чуў малітвы Анатоля
ў мінскае кватэры.
Цесна вершам у хаце,
душа Паэта да палёту кліча.
І намагнічаныя рэчы запрашаюць да размовы.
Вершы абпякаюць пальцы,
а душы — полымя.
Сястра Тамара плача,
і Рэчыца дажджом сыходзіць.



Свяці, Гарошкаў, хатай Анатоля —
калыскай геніяльнага паэта,
дзе печ выявай сэрца ўшанавана, —
ці не таму агонь быў братам кроўным?
Збірай людзей, каб шанаваць святое Слова.

Боская птушка пагубляла пёры,
ды пёры — зоры, ды пёры — горы...
Тут будзе і музей у пэўным часе,
«Агмень», «Пан Лес», і «Сыс», і «Лён»
ураслі даўно ў людскія сэрцы.

## Наказ

*Анатолю Сысу, выдатнаму*
*беларускаму паэту*

Чую голас даверліва-ціхі,
бачу позірк глыбокі, цяжкі.
Часта пры развітанні выдыхваў:
«Святлана, вершы пішы...»

Любіў паэзію больш за жыццё,
з ёй шлюбам пабраўся кроўным.
Толькі яна — і мядком, і асцём
была яму павай, роўняй.

Вершы выношваў, бы маці дзіця,
слова цаніў, бы зярнятка,
і прагу гэту — вершы ствараць —
дарыў сябрам без астатку.

Маці пяшчотна так любіў,
любіў аддана Айчыну,
жанчыну кожную блаславіў
і марыў, марыў аб сыне.

Цяжка стала: няма арла
з душой гарачай прарока.
І плача сэрца, і плача адна
бялюткая ў полі бярозка.

І ў суцяшэнне, на новы дзень,
голас зляцеў, нібы той прамень
з чыстых нябёсаў сініх
травам зялёным, ніцым:



«Святлана, чуеш, вершы пішы...
Дзень свой кожны вяршы
чыстым бялюткім словам,
вярыгі немачы скінь, адрынь,
глядзі, палымнее як куст вяргінь, —
першаю будзь і новай!»

Першаю буду і новай!

## Мінск, любімы горад

Нямігі прадсвітальны дух
лунае па-над Верхнім горадам.
Лёгкае, нібыта пух:
«Зайдзі да мастака Ванькові́ча.

Зайдзі ў “Гасцёўню Галубка”,
ў музей Максіма Багдановіча...»
Нябачная вядзе рука
па брукаваных вулках-сховішчах.

Мінулага няўлоўны пах.
Пажоўклы ліст. Жывыя вочы.
І гэтак жа кіпела кроў,
і гэтак жа — бяссоння ночы.

Так мы з табой,
вандроўнік мой,
штодня ўзіраемся ў прадонне,
штодня шляхі сабе прарочым —

у прорву душ, у пастку дум,
у кола страшнае — бязладдзе,
калі «усе мы ляцім да зор»*,
але свой воз бяздарна цягнем,

нібыта лебедзь, і шчупак, і рак
з крылоўскай памятнае байкі.
Паразумецца цяжка так
ваўку й аленю, крыўдзе й ласцы.

* Радок з верша Максіма Багдановіча.



Як чорна жыць!
Як светла жыць!
О божае святло нябёсаў!
Ты не пакінь нас, памажы
прайсці душой балючай, босай

па роснай трапяткой зямлі,
дзе беластволыя бярозкі
з крыжамі побач прараслі,
дзе краскі — Маці Божай слёзкі.

Царкоўны ачышчальны звон,
плыві ж,
плыві над Верхнім горадам,
кліч да нябёсаў, дух жыві,
лунай над Мінскам
вольным голубам.

## Раніцай, залітай сонцам

Сястрыца-чайка! Узмахні
крыламі белымі свабодна,
мой сон самотны прагані,
дай веры вольна жыць і годна.

Чародка чаек на вадзе,
бялявых, сцішаных, нясмелых —
святло нясправўджаных надзей
між дзён маўклівых і здранцвелых.

Іду на працу. Красавік.
Траецкае прадмесце. Свіслач
лунае ў сонечным святле
і бласлаўляе сонцам чыстым.



## Думкі ў час падарожжа

Мір і Нясвіж запаветныя —
Радзіма нашых князёў.
Ад мураваных сценаў
вее цяплом і жытлом.

Сыходзяць стагоддзі і вёсны,
бы чорны аселы снег.
Ды колькі было годнасці!
Як звонка гучаў смех!

Род Радзівілаў трымаецца
продкаў сваіх і муроў.
Фарны касцёл уздымаецца.
Прыйдзі сюды зноў і зноў,

каб лепей прадбачыць будучыню,
каб мерацць жыццё з вышыні.
Яны сваё адкрасавалі,
а як адкрасуем мы?

## Час вогненнай гліны

*Алене Храмянковай*

Кругазварот жыцця:
час вогненнай гліны ды імгненне спакою.
Кажу: «Час гарыць».
Адказваюць: «Што згарыць —
не згніе, не патоне».
Вір жыцця — лесвіца з прыступкамі
ўніз і ўверх.
Хочаш — выбірай цемру,
а лепш — Неба.
Дай руку мне, ласкавы верш,
сябра мой верны, хлеб мой.

Каб выплыць з вогненнай плыні,
каб з мяккай падатлівай гліны
быць перстам, апосталам, ружай,
каханай, прыўкраснай, дужай.

Ад сэрца ключы ці ад лёсу?
Вось клён: ці пяе, ці галосіць?
Па вулках анёлак вандруе,
Хто мары яго працытуе?

Час вогненнай гліны бясконцы —
да волі, да мары, да сонца.



## «Люблю... люблю... люблю... Беларусь»

Жонцы Усяслава Грынкевіча, аднаго з кіраўнікоў паўстання 1863–1864 гг. у Беларусі і Літве, якая везла мужу памілаванне ад Мураўёва і не паспела, бо быў і іншы загад.

*Паводле твора «Паром на бурнай рацэ» Уладзіміра Караткевіча*

Рабінавая ноч у скрусе,
рабінавая ноч пакутуе.
Прадчуванні падзеі чорнай
не даюць спакою.

Хвалі ў роспачы ўзбунтаваліся.
Пасмы лівеню мутна-шэрыя
аб’ядналіся, абдымаюцца,
з грозным грукатам б’юць у бераг.

Непадступны Дняпро ў раз’юшанасці,
на зямлі і на небе жудасна,
раззлаваўся стары не на жарты
на ліхіх крывадушнікаў.

Цемень, хоць вока выкалі, нібы смерць,
каля прыстані — постаці цьмяныя,
мітусяцца, прамоклыя ўшчэнт,
бездапаможныя, жалю вартыя.

Ты, жанчына, спяшайся, не бойся,
хвалі чорныя не возьмуць цябе.
Той бераг — тваё збавенне,
той бераг чакае ў журбе.

Вось човен, чорны, маленькі,
шчэпка ў рачной каламуці.
Ступіла, бы ў вечнасць, адчайна,
ўзняліся напружана грудзі.

Спяшайся, спяшайся, гаротная,
хоць ведае грозная плынь:
не паспееш, загад будзе споўнены
раней на дзесяць хвілін.

Кароткі пачуецца стрэл,
здраднік бяссоннай ночы...
Здранцвее твая душа,
патухнуць шэрыя вочы,

У жылах застыне кроў,
плецццю павіснуць рукі.
Але ты ўскінеш бровы
і годна між ворагаў рушыш.

Трымайся, ты пойдзеш назад.
Сумленне — вышэйшая кара.
Паўстанне зломлена, расстраляна,
ды памяць любові — жывая.

І прага волі — жывая,
вечна над краем лунае.



## Матыў бамбука

Матыў адзіны, родны і жаданы —
стыхія дрэўца, што паўсюль расце,
бамбука голле мовай трапяткой пісаць —
і больш нічога не хацеў Юй-кэ.

Рытм, бег, мілосць, спакой і холад —
ўсё падуладна пэндзлю мастака.
Галінка-сімвал, галінка — жарсць і споведзь,
у ёй адной — увесь Кітай.

Прайшлі стагоддзі, ды бамбук
лепш за ўсіх пісаў Вэнь Тун*.

А ў Беларусі мілай
так вярбы галінку
малююць мастакі,
што ў вёсках нарадзіліся палескіх.

Святыя вёсны тыя —
твае, мае —
ужо прайшлі на ўлонні
балотнае вярбы,
жывучай, спеўнай, гнуткай,
нібы усходні брат — бамбук.

* Вэнь Тун — кітайскі мастак (1018–1079). У яго, па звычаі, было другое імя: Вэнь Юй-кэ.

## Лёс мастака

*Уладзіміру Сулкоўскаму*

«Проста жывапіс»*, проста жыццё,
проста вяргіні пад вокнамі хаты,
проста прадвесне, сэрцабіццё,
проста жывапісу араты

з дня ў дзень, з лета ў зіму
размову-споведзь вядзе ў майстэрні.
І ажываюць, вітаюць, цвітуць
нацюрморты, пейзажы, партрэты.

Сціплая ўсмешка, жар сініх вачэй,
лёгкі поступ, прыязнае слова...
Кожны штрых пэндзля душу апячэ
прадуманай яснаю мовай.

І чыстае сэрца, і волі узлёт:
душа беларуса — няспыннасць «Пагоні».
З дзядоўскіх тых пушчаў, з грывай ўразлёт
ў стагоддзях лятуць тыя коні.

Насуперак несвядомасці,
насуперак глабалізацыі
жыве Беларусь жывапісная,
жыве беларуская нацыя!

* Назва выставы жывапісу, прысвечанай 60-годдзю Уладзіміра Сулкоўскага.



## Шлях

*Уладзіміру Пракапцову*

Мастак і вежа. І жыццё.
І вечны снег, бялюткі, першы.
І вечны пошук — адкрыццё
Радзімы духу — смагі сэрца.

Мастак і воля. І жыццё...
Мацнейшае за ўсё — не зброя,
а веры крэпасць — пачуццё
жывое, кволае такое.

Мастак і вечнасць. І жыццё...
Раскрый свае, як можаш, крылы.
О Божа, Ты пачаў палёт,
дык блаславі на плён і шчырасць.

Пакут — даволі! Быць хачу
шчаслівым самым чалавекам.
О споведзь-верш, цябе прашу,
о фарбаў споведзь, — будзьце хлебам

для светлай чуйнае душы,
для духу моцнага людскога.
...Малітву шчырую вяршыць
свайму і роду, і народу.

# МАЦЯРЫНСКАЕ СЛОВА

## Маці

Час распісаўся на твары тваім
барознамі дзён,
на косах — белай кудзеляй
за шчасце дзяцей,
на сэрцы — мудрай самотнай усмешкаю.
Ды вочы адно — маладзеюць!
Дыханнем цябе абдыму,
захіну душою ад бедаў...
Матулечка, родная, не сумуй:
хутка прыеду.

## Малітва

Выйду на ўзгорак,
ўздыму рукі ў неба
і буду маліцца
за ўсіх нас, збалелых.

Мілы мой Божа,
даруй нам заганы,
дай згоды і шчасця
без крыўдаў і ранаў.

Караеш пакутай
нядбалыя душы.
А можа, цікуе
нас нехта відушчы,

рагоча, блюзнерыць і ставіць падножкі?
Паблісккваюць ў цемры агідныя рожкі...

Цікуе якраз за імгненне да шчасця...
Прачыстая Дзева, не трэба напасцяў.

Даруй малым дзеткам, даруй і дарослым,
дай моцныя крылы для думак узнёслых.

Хай будзе імя тваё песняй маёю,
а вольная воля не стане пятлёю.

## Калыханка

Снег аблокаў белых.
Жыта, жыта, жыта.
Ўсё, што набалела,
будзе перажыта.

Лета, лета, лета
хутка пралятае.
Дзе ты, дзе ты, дзе ты,
маці маладая?

Пастарэла маці
ў працы і малітве,
Цёпла, ўтульна ў хаце,
ў космасе — вярыгі.

І ўжо яе дочка
песціць і галубіць
любага сыночка
і да сэрца туліць.

Праспявае нанач
ціха, бы малітву:
«Ўсё, што набалела,
будзе перажыта.

Ты расці, мой сыне,
дужым і вясёлым.
Хай цябе спаткае
залатая доля».



Дзеці, дзеці, дзеці,
не кідайце маці!
Бо без вас ёй мулка
і нядобра ў хаце.

## Дзень пачынаю малітвай

На золку
мяне будзіць пчала,
дзынкае па шкле.
Заляцела ў адкрытую фортку,
прагне на волю,
дарэмна крылцамі б'е...
Устаю, выпускаю стварэнне.
Можа, і мяне нехта выпусціць
у свет белы
з лабірынтаў пытанняў?
Дзень пачынаю
малітвай.
Прашу цішы і спраў завяршэння,
каб рушыць далей
насустрач новым
адкрыццям.



* * *

Сумна адыходзім у нябыт.
Ці ўспомніць хто?
Ці прарасце зярнятка?

## Голас маці

Правальваюся ў пастку небыцця,
няўдачаў, недарэчнасцяў пякучых.
І толькі голас маці да жыцця
выводзіць на дарогу, дае духу.



* * *

Так здараецца, так здараецца:
чаго хочацца — не збываецца.
А што прагнецца, хоць бы кропельку, —
уцякае за далягляд.

Ты, дзяўчынка мая светлакосая,
падрастай хутчэй з чуйным розумам,
не хварэй, прашу,
а квітней.

## Накanаванне

Пах зямлі ўдыхаю абуджанай,
выдыхаю: «Жыві!» — так суджана

і табе, травінка,
і табе, дрэўца,
і табе, птушачка,
і табе, пчолка ў вуллі,
і табе, чалавек, —
Божая душачка.

Марыць аб раі, прытулку сардэчным,
з году ў год, і сёння, і вечна —

і табе, травінка,
і табе, дрэўца,
і табе, птушачка,
і табе, рыбка ў віры,
і табе, чалавек, —
Божая душачка.



## Слава імгненню!

Адкрыеш вочы пасля сну,
дзівуешся чароўнай казцы:
разліўся сонца водар-цуд
бязмежна добрай Божай ласкай.

Ледзь дыша ветрык ў воблачку бялюткім,
ўзлятае матылёк, шчыруе пчолка...
Бягуць імклівыя секунды.
І — слава дню — жыцця іголцы!

## Жанчына

Ідзе праз стагоддзі жанчына
(спачатку быў матрыярхат).
Гэта яна прыручыла
кошку, карову, каня.
Гэта яна напрарочыла
вясну сабе й чалавецтву.
Гэта яна нарадзіла
Хрыста — Збавіцеля вечнага.
Дзіця прыроды — жанчына
натхняла на подзвіг мужоў,
кахала, люляла, расціла
дачок, адважных сыноў.
Жняя, майстрыха, мастачка,
доктар, настаўнік, вучоны...
Толькі б Зямля трымалася на арбіце,
грахамі цывілізацый напоўненая.
...На вуснах — ледзь улоўная ўсмешка,
у вачах — бяздонны адчай.
А праз адно імгненне —
вера, смарагдавы рай.



## Мой дзень

Снова за окнами белый день,
день вызывает меня на бой...
*Виктор Цой*

Я кожны дзень іду на бой,
бо час бяжыць, бяжыць наперад
і ўладна цягне за сабой
і мой спакой, і мае нервы.

І я ўступаю у двубой,
паспець стараюся штосілы;
і часта свет бывае мой
жаданы, праведны і мілы.

Але, бывае, боль звініць,
і твар ўсе больш і больш суровы,
і сэрца ўсе часцей трымціць,
а сябра, — што сказаць? — ён кволы.

І мне яго — не зберагчы,
і мне яго — не падтрымаць.
О Божа мілы, памажы
яму свае шляхі стрываць!

Зямля мая, мой кроўны боль,
і неба...
Я люблю ў журбе.
Не пракляну, рашчу любоў,
бо толькі з ёй знайду сябе.

## Жыцця!

Як быць?
Сабе не веру.
Сплывае думка ўбок,
як паплавок альбо лісток.
Аголеныя нервы.
Як волю і Пегаса прыручыць?
Як здзейсніць ток быцця?
О белая спакусная папера,
цярэбіш ты душу...
Жыцця!
Ключы даверу!



* * *

Тваю душу пачуе толькі Бог.
І больш ніхто-ніхто на белым свеце.
Хіба чародка беленькіх бяроз,
што выбеглі сустрэць цябе на ўзлессе,
ды марыва няходжаных дарог...

Тваю душу пачуе толькі Бог.

## Спарадкаваць хату

Мы кветкі збіралі ў дзяцінстве
і ставілі мноства букетаў.
Цвітуць яны ў нашых душах
дзясяткі гадоў, аж дагэтуль.

Ладзіць душу і ўтульнасць,
спарадкаваць дом і сэрца —
чаму так пакутна, так мулка
дзясяткі гадоў не ўдаецца?

Расцём мы штодзень і штоночы,
змяняюцца думы, настроі.
Мы — хвалі ракі срэбраводнай,
імя ёй — жыццё залатое,

зямное, ў пабітых каленях,
у душах жа — рай, часцей — пекла.
Спарадкаваць дом наш — Радзіму,
каб годна было ўсё і пекна...



## Радзіма

*Сястры Надзеі*

Апошні дзень зімы. Мароз і сонца.
Як ззяе снег у горадзе Чачэрску!
Сястра мая загадкава ўсміхнецца,
налье адвар чабору у дарогу.

Імчыць аўтобус па шляхах Айчыны,
палі бялеюць цуда-ручнікамі.
Мой родны кут, ты у мяне — адзіны,
з карункамі бяроз і бальшакамі.

І сэрца маё тут, дзе род мой кроўны
вясною садзіць бульбу і цыбулю,
дзе ўлетку жыта вабіць васількамі
і бусел шчасце нацыі пільнуе.

Насуперак Чарнобылю і болю
нам трэба жыць і верыць у бяссмерце...
Я ліру сэрца на святло настрою:
хачу любіць, гарэць, ствараць і верыць.

## Крылы

Чую крылы
Вялікія моцныя белыя
Чую біццё іх
Бы хваляў магутных
Бяскрайняга светлага мора
Яны з нецярпеннем чакаюць палёту
Вочы птушак глядзяць на мяне
І чаруюць і вабяць і клічуць
То вочы анёлаў і Бога
І мне так хочацца з імі
Лячу
Зямля знікае ў аблоках



## О!

*Ларысе Раманавай*

Зараз такая ціхая восень,
як дваццаць год назад:
мяккай бяззорнай ноччу
ціха звіняць кроплі дажджу
па пругкім азяблым лісці.
На душы самота і замілаванне
гэтай начной нематой,
ад якой немагчыма схавацца.
...Тады мы былі дзецьмі,
і ўсё было яшчэ наперадзе.
Цяпер мы пасталелі,
ды ўсё яшчэ наперадзе,
хоць нешта і збылося...
Падраслі нашы вершы і дзеці,
аздабляюцца душы малітвай.
Куды павядуць нас далей
«Птушкі і рыбы»* і «Сонца»**?
Дачок шляхі-пуцявіны?
Сэрцаў людскіх неспазнанасць?
О сэрца Айчыны і маці!
О поля жытнёвага хвалі!
О лугу бацькоўскага краскі!
О вершы — сустрэчы-дарогі!

* Назва кнігі паэзіі Ларысы Раманавай.
** Назва карціны аўтара.

## Быць!

Жыццё змушае
сініцу ў руках
мяняць на жорава ў небе.
Ды ён, птушка таемная, небная —
не ловіцца.
Застаецца адно:
ў сэрцы расціць жураўля,
стаць ім.

# ГАРКАВЫ ВОДАР ХРЫЗАНТЭМ

## Рамантыка

Мне ад цябе засталося сузор'е Касіяпеі.
Тры зорачкі тыя ўзыходзяць
штоночы над хатай маёй.
Па іх я чую — чытаю
далёкія дзіўныя словы
з юнацкае фотакарткі:
«Хай буду заўжды з табой!»

## Гомельскі ўспамін

Боль мой самотны,
сумныя вочы дажджынак
на мокрым голлі бяроз,
адкуль ты адчуў,
што ў свеце гэтым няўтульным
ёсць радасць-пакуты,
трапяткое ранне-згасанне,
званы суцяшальныя,
голас арганны,
дзявочае светлае сэрца,
што б'ецца
пад ветрам пякельным?



## Авэ, Марыя!

Скажы мне слова ласкавае,
простае слова скажы,
пра тое, як будзем жыць,
простае слова ласкавае.
І хто я табе, скажы.
Светлая, клічу ў заўтра,
ў сіняе неба вышынь?
А можа, як цяжкі камень,
што боль прыносіць душы?
І трапяткое раніцы сарамлівым крылом,
і пранікнёнымі спевамі кнігаўкі за сялом,
восеньскаю красою і перламутрам-снегам
быць для цябе мне хочацца
ў свеце чароўным гэтым.
Жыць — толькі слову ласкаваму,
жыць — толькі светламу дню.
Авэ, Марыя святая,
даруй і мне, і яму,
свяці і мне, і яму.

## Было!

Люблю тое, у што веру,
А веру ў тое, што люблю.
*Язэп Драздовіч*

...А ці шчасце было? Было!
Як дзіцятка, ў райку расло,
кветкі досвіткам прачыналіся
і дню беламу усміхаліся.

Ну, а радасць была? Была!
Ручніком вясёлка цвіла.
Нехта песціў мяне, бярог,
уцякала зямля з-пад ног.

І без гора быць не магло,
калі чорным снегам мяло,
калі ў полі йшла, захлыналася,
калі мы з табой не спаткаліся.

Ну, а крылы былі? Былі!
Яны небам у снах плылі.
Краскі выснілі сто шляхоў —
Трапяткую, як рунь, любоў.

І дзівосы-цуды здараліся —
аднадумцы разам збіраліся.
Мастак з сэрца пейзаж праліў,
да паэта словы прыйшлі.



Колькі сонца было, святла!
Я шукала сябе, знайшла.
Так хацелася новых дарог...
За руку вадзіў мяне Бог.

## Жаданне

Пайду шукаць маю Літву...
*Людка Сільнова*

Пайду шукаць мне родных душ
паміж стагоддзяў,
каб зразумець свой палкі дух, —
кіпіць сягоння.

Былі і будуць, хто гарыць
святым жаданнем —
Радзіме шчыра паслужыць
жыццём, мастацтвам.



## Ода хрызантэме

*Прысвячаю Масако Тацумі*

Кветка з імператарскага кімано
японскім ветрам занесена ў Беларусь.
Чарнакосая японачка Масако
Чайную цырымонію гасцям дэманструе.

Ў Краіне Ўзыходзячага Сонца зноў землятрус.
Барані, Божа, паўднёвы востраў і дрэўца-сакуру.
Чырвона-белы арнамент на шырме і на абрусе
гаворыць аб роднасці кантынентаў і нацый.

Хрызантэмаў пялёсткі, лісце зялёнае,
нібы таемная сэрца сімфонія...
Шматколернае гаркавае вогнішча
ў Беларусі кожную восень,
кожную восень.

## Шчасцем успыхнуць

Карма — маленькі пасёлачак у Чачэрскім раёне Гомельскай вобласці, які існаваў з 1920-х да 1970-х гадоў. Мой райскі куток на зямлі. Адтуль і з Неба пачалося Дрэва жыцця майго. Карма... Там прастора, як сонца, і нейкае светлае ззянне паветра. Толькі дарога адна засталася ў полі на месцы садоў белапенных і ліпаў паважных, ды ціхія могілкі ў лесе высокім. Там нарадзілася, там дзяцінства прайшло. Узгадваю тыя імгненні, што сышлі ў Лету. І бачу ярчэй маю сцежку жыццёвага Дрэва.

Карма — мая к*а*рма, мой лёс,
нос-лязо і карма маёй лодкі жыццёвай.
Не перакульвайся, лодка, плыві
пад парусам сэрца і асалодай стварання.
Не збівайце, хвалі і вецер, —
так многа яшчэ неспазнанага ў свеце,
не зразумелага мною,
так многа яшчэ душы нерастрачанай,
прагі святла і працы,
прагі сустрэч-знітаванняў і абавязкаў.
Па тоненькай нітачцы-павуцінцы,
па гуку ледзь чутным,
па празрыстым колеры-льдзінцы



бачу і сёння, і заўтрашні дзень мой —
на ўлонні зямным,
і ласкавым, і судным.
Зіма не здаецца, заснежыла красавік
(няўжо і Вербнае свята?)
новым снегам бялюткім.
Ды сонцу — адбыцца!
Вясна — не сёння, дык заўтра —
абдыме цябе і мяне,
зямельку адкрые, расквеціць, узрасціць.
Спяшайся ж, сэрца маё,
шчасцем успыхнуць!

## Спяваць

Спяваю па тэлефоне,
голас мой не пазнаць.
Сабе і кожнаму — хоць і ў сконе —
спяваць.
Душа з душою зліецца — веру, —
неба вечнасцю нас асвеціць,
і мы з табою — салоўка з вясною,
паветра з зямлёю,
агонь з вадою,
лілея і бераг —
разам будзем ісці да сябе
праз сябе, праз цемру
да Бога...
Верш скончаны.
Слова лятае ў паветры.



## Добрай раніцы!

Добрай раніцы, ясна сонейка!
Добрай раніцы, хмаркі-лодачкі!
Плывяце вы так лёгка-лёгенька
шляхам вольным, прасторным, сонечным.

Добрай раніцы, неба чыстае, —
мора мараў, жыццёвых, крылатых.
Што за вочы ў цябе? Празрыстыя,
прыцягальныя, бы ў каханага...

Вясну кліча сінічка настойліва.
Снег асеў, лёд трашчыць, капяжы.
Добрай раніцы, наваколлейка!
Жыць —
як верш ствараць.
Будзем жыць!

## Кастрычніцкі матыў

Марознаю снежнай ночкай,
настоенай гулкаю цішай,
зноў мучыць мяне нацюрморт мой:
як лепей тут думку выявіць?

На палатне — кастрычнік:
каліна і хрызантэмы.
Вядуць дыялог дзве поўні
бясконцаю роднай тэмай.

Спляліся барвовы і белы,
выйсця ў свет вольны шукаюць.
Будзь, дружа мой, смелы і цэльны,
мары сваёй спавядайся.

Жыву то пейзажам, то вершам,
то побытам тлумным, — так трэба.
І кожны мой твор — быццам першы
анёлак з адкрытага неба.

У келлі сваёй — майстэрні
малюся ўсяму Сусвету:
«Дай моцныя крылы і нервы,
каб несці жыцця эстафету
і мне, і ўсім добрым людзям»...

Я веру: усё лепшае будзе!



# Змест

**На ўлонні вясны**



**Верлібры**
**з пэндзлем у руцэ**

**Мацярынскае слова**





**Гаркавы водар хрызантэм**

Пры афармленні вокладкі выкарыстана карціна
Святланы Раманавай «Жнівень».

*Літаратурна-мастацкае выданне*

Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў
«Кнігарня пісьменніка»

Выпуск 35

**Раманава** Святлана

**СМАРАГДАВЫ РАЙ**

*Паэзія*

Адказны за выпуск *Г. Вінярскі*
Рэдактары *Б. Пятровіч, Л. Раманава*
Вёрстка *Л. Ваўчок*
Карэктар *А. Спрытніч*

Падпісана да друку 28.02.2013. Фармат 80x100 1/32.
Папера афсетная. Друк на рызографе. Ум. друк. арк. 4,44.
Ул.-выд. арк. 2,17. Наклад 200 ас. Зак. 129.

ПУП «Кнігазбор».
Ліцэнзія № 02330/0003924 ад 08.04.11.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33,**
**тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка
ў ААТ «Аргбуд».
Ліцэнзія № 02330/0494197 ад 03.04.09.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.